*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 42(98) ◈ 21 кастрычніка 1992 г. ◈ Кошт 1 рубель (Па падпісцы — 10 кап.)

## НІЛ ГІЛЕВІЧ: «Калі Божы храм і народ загавораць адной мовай...»

***З выступлення на адкрыцці навуковай акадэмічнай канферэнцыі, прысвечанай 1000-годдзю хрысціянства на Беларусі***

Тысячагодвы шлях, які прайшла Беларусь пад блаславенным сяйвом хрысціянскай веры, мы азіраем, вядома ж, не толькі для таго, каб паганарыцца мінулым або настальгічна паўздыхаць па незваротна страчаным, а ў першую чаргу для таго, каб, дакрануўшыся душой да вытокаў, лепш зразумець сябе сённяшніх і лепш, ясней убачыць свой заўтрашні дзень — будучыню краіны, якой належым. Зрэшты, усе вялікія даўнія даты для таго і напамінаюць пра сябе, каб людзі і народы не забывалі пра свой абавязак — пройдзенае, перажытае, зробленае асэнсоўваць у гістарычнай перспектыве, з мэтанакіраваным паглядам у будучыню, з усведамленнем урокаў сваёй гістарычнай жыццядзейнасці. Тысячагоддзе праваслаўнай епархіі на землях Беларусі бясспрэчна такою вяхою для нас і з'яўляецца. Мы ўшаноўваем гэту дату з разуменнем той велізарнай ролі, якую адыграла праваслаўная царква, па-першае, у духоўным і культурным развіцці беларускага народа на пачатку крышталізацыі яго этнапсіхалогіі, нацыянальнай самасвядомасці, свайго ўласнага менталітэту, а па-другое — у станаўленні і ўмацаванні беларускай дзяржаўнасці — спярша ў абліччы Полацкага княства, а затым — у абліччы Вялікага княства Літоўскага.

На грунце высакароднай чалавекалюбнай хрысціянскай маралі ішло, з аднаго боку, пашырэнне пісьменства, кніжніцтва, школьнай асветы, прафесіянальнай мастацкай культуры, на Беларусі, а з другога боку — адбывалася натуральнае фарміраванне дзяржаўна-патрыятычных поглядаў, боскае асвячэнне права на свой уласны дзяржаўны пасад між дзяржавамі. Ажыццяўленне гэтых дзвюх місій у іх непарыўнай спалучальнасці было плённым і перспектыўным, аднак, толькі да таго часу, пакуль царква абапіралася на прыродныя духоўныя апоры народнага-быцця — на адвечныя звычаі і традыцыі народа, на яго бытавую абраднасць, на яго незвычайны багаты фальклор, а ў першую чаргу — на мову гэтай зямлі, на жывую моўную стыхію, у якой усебакова выяўлялася душа народа. Калі ж гэтыя прыродныя апоры пачалі ігнаравацца і падменьвацца іншымі — тады і пачаліся нелады ў духоўным жыцці грамадства, і нарэшце, наступіў той поўны драматызму разлад, вынікі якога з'яўляюцца для сённяшняй Беларускай праваслаўнай царквы цяжкай спадчынай. Я кажу аб праваслаўнай царкве, але сказанае цалкам стасуецца і да хрысціянскай царквы заходняй, каталіцкай.

Трагічны парадокс нашай гісторыі. Заклапочаная маральным станам і духоўным развіццём народа, царква намагалася палепшыць гэты стан і паспрыяць гэтаму развіццю, заняўшы пазіцыю адчужэння ад этнічных беларускіх асноў, ад першаэлементу нацыянальнай культуры — мовы беларускага народа, пайшоўшы на падтрымку імперскай палітыкі асіміляцыі,— будзем сёння гаварыць пра гэта шчыра, як ёсць. Адсюль і тая ненармальная адсутнасць належнага духоўнага супрацоўніцтва творчай і навуковай беларускай інтэлігенцыі з царквою — з'ява, як вы разумееце, вельмі і вельмі непажаданая, бо ад гэтага церпіць агульная справа духоўнага адраджэння нацыі, маральная і палітычная стабільнасць нашага грамадства. Гэта ва ўсіх адносінах вельмі кепска, калі храм Божы і нацыянальна-патрыятычная інтэлігенцыя раз'яднаны. І асабліва кепска ва ўмовах станаўлення нашай Беларускай дзяржавы, якое рашуча вымагае кансалідацыі ўсіх грамадскіх сіл. Прыгадаем для прыкладу, якую незаменную ролю ў перыяд нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Балгарыі адыграла Балгарская праваслаўная царква: усе яе храмы і манастыры былі не толькі магутнымі асяродкамі захавання нацыянальнага духу, вогнішчамі балгарскай веры, але і асяродкамі барацьбы за нацыянальнае вызваленне. З ліку святароў выйшлі многія выдатныя дзеячы балгарскай літаратуры і мастацтва, і нават асобы, якія з'яўляюцца нацыянальнымі героямі Балгарыі.

Зразумела, што мы глядзім наперад і верым у скоры надыход часу, калі Божы храм і народ на Беларусі будуць гаварыць не living рознымі мовамі, а адною — моваю гэтай зямлі, калі адраджэнне веры Хрыстовай у душах чалавечых у поўнай меры будзе супадаць з адраджэннем беларускай нацыянальнай і дзяржаўнай самастойнасці, беларускай мовы і культуры.



Адсвяткавана 1000-годдзе хрысціянства на Беларусі. Асноўныя ўрачыстасці прайшлі ў Полацку.

**На здымку:** падчас набажэнства ў Спаса-Ефрасіннеўскім манастыры Полацка.

**Фота Уладзіміра МЯЖЭВІЧА, Аляксандра ТАЛОЧКІ. Белінфарм.**

---

Камісія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны, абмеркаваўшы пытанне аб ходзе выканання Пастановы Вярхоўнага Савета № 1622-XII «Аб унясенні змен у Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» прыняла рашэнне, у якім адзначана, што Савет Міністраў, Міністэрства фінансаў, Дзяржкамстат і Дзяржкампрацы Рэспублікі Беларусь несвоечасова і ў няпоўнай ступені выканалі азначаную вышэй Пастанову Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, што на фоне няўхільнага павышэння цэнаў прыводзіць да рэзкага пагаршэння матэрыяльнага становішча педагагічных работнікаў рэспублікі, адкідвае многіх з іх за рысу беднасці.

Шэраг Міністэрстваў і ведамстваў РБ адкрыта праігнаравалі рашэнне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб увядзенні ў дзеянне з 1 верасня 1992 года арт. 34 Закона «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь».

Камісія патрабуе ад Урада Рэспублікі Беларусь, ад кампетэнтных органаў дзяржаўнага кіравання рэспублікі прыняць вычарпальныя захады дзеля неадкладнага ажыццяўлення Закона.

---



## ПОСТУП ТЫДНЯ

**20 КАСТРЫЧНІКА Ў ЗАЛЕ ПАСЯДЖЭННЯЎ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ДОМЕ ЎРАДА ПАЧАЛА ПРАЦУ ДЗЕСЯТАЯ СЕСІЯ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ДВАНАЦЦАТАГА СКЛІКАННЯ.**

**ПЕРШЫ НАМЕСНІК СТАРШЫНІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА БЕЛАРУСІ ВЯЧАСЛАЎ КУЗНЯЦОЎ ПРЫНЯЎ У ПАРЛАМЕНЦЕ РЭСПУБЛІКІ ВЯДОМАГА АМЕРЫКАНСКАГА ФІНАНСІСТА ДЖОРДЖА САРОСА.** Адбылася размова аб адкрыцці ў Менску філіяла Фонду Сароса, мэта якога — фарміраванне і падтрымка інтэлектуальнай эліты ў краінах Усходняй Еўропы і СНД. Было адзначана, што спецыялісты ЗША і іншых краін маюць намер аказаць Беларусі кансультатыўныя паслугі ў галіне эканомікі, права, заканатворчасці, бізнесу, палітыкі і інш.

**АДКРЫЎСЯ «МЕНСКІ КІРМАШ ВОСЕНЬ-92», ЯКІ ПРАЦУЕ НЕ ТОЛЬКІ Ў СТАЛІЦЫ, АЛЕ І ПА ЎСЕЙ РЭСПУБЛІЦЫ.** На ім выстаўлены абсталяванне, сыравіна, будаўнічыя матэрыялы, гатовая прадукцыя з усіх краін СНД і Балтыі.

**У РАМКАХ ЦЭНТРА СТРАТЭГІЧНЫХ ДАСЛЕДАВАННЯЎ І МІЖНАРОДНЫХ АДНОСІН ПРЫ БЕЛАРУСКІМ КАМІТЭЦЕ АБАРОНЫ МІРУ** адбылася беларуска-амерыканская канферэнцыя па пытаннях нацыянальнай бяспекі і нераспаўсюджвання ядзернай зброі.

**У ДЗЯРЖАЎНЫМ МАСТАЦКІМ МУЗЕІ БЕЛАРУСІ АДКРЫЛАСЯ ПЕРСАНАЛЬНАЯ ВЫСТАВА МАСТАКА АЛЕСЯ МАРАЧКІНА.**

**ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ ЯЗЭПА ДРАЗДОВІЧА** — графіка, жывапісца, скульптара — прайшоў у пасёлку Германовічы Шаркоўшчынскага раёна.

**У ВІЦЕБСКІМ МАСТАЦКІМ МУЗЕІ ПРАЦУЕ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАЯ ВЫСТАВА «ПЕСНЯРЫ ЗЯМЛІ БЕЛАРУСКАЙ», ПРЫСВЕЧАНАЯ 110-ГОДДЗЮ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЯНКІ КУПАЛЫ І ЯКУБА КОЛАСА.**

# Акупаваны эфір

Летась мне давялося адпачываць на Браслаўшчыне. Не буду пісаць пра красу яе краявідаў — усё гэта трэба бачыць на свае вочы. Як радыёаматара мяне здзівіла іншае: на сярэдніх хвалях мой радыёпрыёмнік браў ажно пяць латвійскіх радыёстанцый. Чаму мяне гэта ўразіла? Ды таму, што ў Менску ён бярэ таксама пяць сярэднехвалевых станцый, і ўсе яны — расійскія. Для недасведчаных патлумачу, што радыёстанцыі, якія працуюць на сярэдніх хвалях, забяспечваюць больш-менш якаснае прыманне ў дзённы час у радыусе да 100 кіламетраў. Адсюль зразумела, што станцыя, якую чуваць у Менску, абавязкова мусіць знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі.

Дык што ж гэта дзеецца? У цэнтры незалежнае краіны сярэднія радыёхвалі (дарэчы, самыя даступныя і зручныя для карыстання ўдзень — на прыродзе, у дарозе, на лецішчы) на сутнасці акупаваныя суседняй дзяржавай. Ці ж нармальна гэта? І што пасля гэтага можна гаварыць пра інфармацыйную прастору Беларусі? Хацелася б, каб чытачы «Нашага слова» падзяліліся сваімі назіраннямі пра сітуацыю ў тых мясцінах, дзе яны жывуць. Узнятае пытанне, на мой погляд, вартае сур'ёзнае гаворкі.

Юрка САНЬКО.
г. Менск.

# Бывай, Алесік...

*Памяці сябра*

Я не быў сябрам вядомага дыктара Беларускага радыё Алеся Свістуновіча. Але частка кароткага, заўчасна абарванага ягонага жыцця прайшла на маіх вачах. Мы разам вучыліся ў тэатральным інстытуце. Алесь — крыху старэйшы, таму кожны раз, калі ў маіх аднагодкаў-студэнтаў нешта не атрымлівалася, мы вінавата азіраліся на яго. Алесь як ніхто разумеў нас, быў спагадлівым і цярплівым. Ён паблажліва, з усмешкай, добразычліва падказваў: «Нічога, нічога, працуйце — і мэты дасягнеце!» Алесева адказнасць за зробленае ўсяляла надзею, і людзі пачыналі цягнуцца за ім.

Пасля мы сустрэліся ў Радыёкамітэце. Менавіта тут ён знайшоў сваё прызванне: стаў дыктарам. А неўзабаве па заслугах лічыўся ўжо адным з лепшых і папулярных беларускамоўных дыктараў рэспубліканскага радыё. Але па-ранейшаму заставаўся чулым, нешматслоўным чалавекам, для якога галоўным заўжды з'яўлялася праца. Усіх захаплялі ўпартая апантанасць, захопленасць Алеся сваёй прафесіяй. Што азначае беларускае нацыянальнае Адраджэнне — міраж ці чарговы лозунг — такога пытання ў яго нават не ўзнікала, бо гэты працэс быў яму першачарговай жыццёвай патрэбай. Як дыхаць! Алесь Свістуновіч — адзін з першых, хто кожны дзень абуджаў, набліжаў духоўнае адраджэнне свайго роднага народа. Выступаў у канцэртах, на вечарах, ахвотна супрацоўнічаў з беларускім тэлебачаннем. Плённа займаўся радыёжурналістыкай. Падрыхтаваў і неаднаразова выконваў аўтарскі монаспектакль паводле цудоўнага твора беларускай сярэднявяковай класікі — «Песні пра зубра» Міколы Гусоўскага.

Алесь быў чалавекам дзівосна светлым. Святло яго — ад чысціні, ад высакароднасці памкненняў і думак. Усё, што рабіў, ішло ад душы. Паспеў шмат здзейсніць, але колькі засталося неажыццёўленага, неўвасобленага...

У дыктарскай групе яго ласкава называлі Алесік, Алеська. Было тут штосьці неабароненае. Светлае і неабароненае. Горка, што цяпер яго побач з намі няма.

Светлая памяць табе, Алесік...

**Алег ВІНЯРСКІ,**
**дыктар Беларускага радыё.**

*Але!*

# МАРАТ ДЫМАЎ НАРЭШЦЕ «ЗАДЫМІЎ»

РАНЕЙ я лічыў, што гэты карэспандэнт рускай рэдакцыі радыёстанцыі «Свабода» на Беларусі — чалавек памяркоўных поглядаў. Часам здавалася, што ён больш аб'ектыўны, чым сталы супрацоўнік гэтай рэдакцыі Уладзімір Малянковіч. Пра Малянковіча кажуць, што ён пястун — дзвюх матак ссе: вашынгтонскую і маскоўскую. Таму і «вучыў», як трэба жыць «инородцам» у посткамуністычную эпоху.

Больш глыбокі аналіз выступленняў Дымава праз радыёстанцыю «Свабода» іншы раз наводзіў на думку, што Дымаў чакае свайго часу. І ён настаў. Усё выразней патыхае ад яго выступленняў імперскім чадам «дыма отечества». Ён нястомна прыладжвае ярлыкі «беларускага нацыяналізму» да прыхільнікаў беларускага Адраджэння. Як хто за сапраўдны суверэнітэт — ужо «нацыяналіст». Дымаў апынуўся ў агульнай імперскай мутнай, шумлівай плыні, якая апошнім часам усё мацней пачынае віраваць на Беларусі. Яна пеніцца праз «думу» смірноўскага панславісцкага «Славянскага сабора» на Беларусі, праз чыкінскую БКП, праз сяргееўскую «Белую Русь», праз янушкевіцкі «Каардынацыйны камітэт» ды іншыя падобныя арганізацыі.

Пакуль што нельга акрэслена сказаць, ад чыйго стала Дымаў вальсуе. Ды гэта, па сутнасці, не мае значэння. Усе яны, гэтыя арганізацыі, ставяцца варожа да беларускасці, да беларускага Адраджэння. Цяпер нават ужо адкрыта блакіруюцца паміж сабой. Было б дзіўна, калі б было наадварот, бо сутнасць іх палітычнай дзейнасці — вярнуць Беларусь у папярэдні стан, ператварыць у «Северо-Западный край». А што гэта за стан, увесь свет добра ведае. Ведае і Дымаў. Хіба не ведае, што беларусы былі вымушаны атрымліваць абавязковую сярэднюю адукацыю на рускай мове і ў рускіх школах? Вышэйшую — у рускіх ВНУ БССР? Іншых жа не было. Ды і з іншых не было перспектывы ўладкавацца на працу, каб не скапаць ад голаду.

Хіба Дымаў не ведае таго, што адразу ж пасля вайны (у працяг таго, што тварылася ў «трыццатыя праклятыя», пачатку саракавога) зачыняліся беларускія школы, а на іх месцы адчыняліся рускія? Хіба Дымаў не ведае сутнасці гэтых дзеянняў і як яны кваліфікуюцца? Культура, навука, справаводства, тэатр, кіно, радыё, тэлебачанне, перыядычны друк, дзіцячыя ўстановы, эстрада, нават мастацкая самадзейнасць метадычна русіфікаваліся пад імперскімі хлуслівымі лозунгамі, пад апекай і з дапамогай «старэйшага брата».

Здавалася, усё гэта ўжо ў мінулым. Дык не, Дымаў у сваіх рэпартажах пачаў даваць каментарыі «в нужном направлении» на выступленні лідэра парламенцкай апазіцыі Зянона Пазьняка, з мэтай дыскрэдытацыі ў яго асобе ідэі беларускага Адраджэння. Разам з тым, не чуваць штосьці, каб Дымаў абмовіўся хоць бы адным крытычным словам аб тоій імперскай эйфарыі, якая зараз назіраецца на Беларусі сярод пэўнай катэгорыі рускіх і рускамоўных. Гэта ж таксама рэаліі палітычнай атмасферы ў рэспубліцы. Хіба ён нічога не чуў пра адкрытыя шавіністычныя нападкі на беларускую мову? Хіба ён не чытае рускамоўных газет, што выдаюцца на Беларусі, не слухае беларускае радыё, не глядзіць перадачы беларускага тэлебачання, дзе вельмі часта ўсё ідзе ў старарэжымным ключы? Чаго ж яму нестае? Каланіяльнага статуса Беларусі? Так і просяцца на вусны словы вядомага верша: «Чаго вам хочацца, панове?» Чаму вам так ненавісна ідэя беларускага Адраджэння?

19 жніўня гэтага года глядзеў па тэлеканале «Расія» перадачу «Там-там-навіны». У ёй выступаў выхаванец адной менскай гімназіі. Ён наіўна запэўніваў тэлегледачоў, што «великороссы, малороссы и белорусы» — гэта ўсё рускія. Цікава, ад каго ён гэта засвоіў?.. Да месца выкарыстаць любімыя словы Дымава: «Это мы уже слышали». Да таго ж на працягу двухсот апошніх гадоў каланіяльнага і паўкаланіяльнага рабства. Але больш слухаць не хочам.

Узнікае пытанне: па якой навучальнай праграме выхоўваюцца блазны ў менскіх гімназіях? Ці ведаюць аб гэтым у Міністэрстве адукацыі рэспублікі Беларусь? Чаму народ Беларусі «гарбаціцца» на ўтрыманне такіх гімназій, каб потым пасадзіць сабе на шыю «великоросских» шавіністаў, якіх так любіць «незалежны» Дымаў?

У нас другой Беларусі няма. Яна ў нас адзіная. Спакон вякоў тут жылі нашы продкі. Тут наша радзіма. Нам хапае гэтага. Мы не імкнёмся ствараць за светам на чужых тэрыторыях своеасаблівыя «бантустаны» тыпу Прыднястроўскай рэспублікі. Нашу зямлю, нашу культуру, апрача нас саміх, няма каму абараніць ад амбіцый прыхадняў. У іх жа ёсць Расія, у якую яны могуць вярнуцца. Скажам, на землі Цэнтральнага нечарназем'я, дзе на пакінутых палях буяе пустазелле. Там яны будуць лічыцца не «беженцами», а «возвращенцами», патрыётамі сваёй радзімы. Там і дзяржаўная мова — руская для расійскага монаэтнасу ды для дыяспары «малодшых братоў», якія воляй лёсу закінуты туды. Там «малодшыя» ні на што не прэтэндуюць, не ў прыклад «старэйшым», якія валацужнічаюць па «чужых манастырах» «со своим уставом», са сваімі прэтэнзіямі, абвінавачваючы карэнных жыхароў у «национализме».

Так што, спадар Дымаў, «полноте напускать дыма», гэта і без вас ёсць каму рабіць у асобе «славяністаў» ды камуністаў.

**В. ШЫДЛОЎСКІ,**
**пенсіянер.**

*Рэха*

***Крыўдна чытаць у «Нашым слове» (№ 40), як праваслаўныя вернікі выгналі беларускую мову з менскага кафедральнага сабора. Цяжка паверыць, што гэта адбываецца ў наш час у Божым храме. Нешта падобнае праваслаўныя вернікі ўжо рабілі ў Гародні. Праваслаўная царква захапіла і працягвае захопліваць храмы, якія гэтай царкве даўней не належалі. Што тут сказаць? Бог ёй суддзя.***

***Але на Беларусі ўжо адрадзілася і працуе наша нацыянальная грэка-каталіцкая (уніяцкая) царква, дзе беларуская мова — гаспадыня, дзе пануе беларускі дух.***

***Прыходзьце да нас (Менск, вул. Бакуніна, 1).***

**Іван АНТАНЮК.**
г. Менск.

# Невуцтва на дарогах

Калі ў паездках па Беларусі на дарожных указальніках сустракаеш назвы вёсак ці іншых паселішчаў на беларускай мове, то душа радуецца. Гледзячы на свае, дадзеныя народам найменні, многія з якіх прыйшлі з далёкай мінуўшчыны і ў якіх адбілася сама гісторыя нашай зямлі, пачынаеш верыць, што беларус становіцца нарэшце гаспадаром у сваёй роднай хаце. Ды вера гэтая, на жаль, вельмі хутка развейваецца, радасць азмрочваецца. Мала таго, што на ўказальніках яшчэ шмат назваў па рускай мове ці ў двайным напісанні — па-руску, і тут жа, толькі ніжэй, як нешта адчэпнае, як нейкая падачка беларусу — па роднай мове. Да гэтага ж беларускія назвы на ўказальніках часта русіфікуюцца, скажаюцца, перакручваюцца, падаюцца з недаравальнымі памылкамі...

Толькі са сваіх родных ваколіц я мог бы прывесці нямала прыкладаў нядбайнага, нават пагардлівага абыходжання з нашымі тапанімічнымі помнікамі. Так знаёмая змалку назва суседняй вёскі Майсеевічы на дарожным указальніку ператварылася раптам у Маісеявічы (нібыта ад рускага — Мойсей), а вёска Аляксадраўка — у Александроўку. Які «механізм» гэткіх «цудоўных пераўтварэнняў», здагадацца няцяжка: нашы народныя назвы нехта перакладае ўжо з рускай мовы! Бярэ старыя, рускамоўныя ўказальнікі і спісвае з іх назвы, замест таго, каб папытацца ў людзей, як яны самі называлі і называюць сваю вёску, горад, рэчку. І гэтак жа, пэўна, робяць чыноўнікі па ўсёй Беларусі. Уяўляю, што яны панарабілі, што яшчэ панаробяць з нашымі адвечнымі гістарычнымі назвамі!

Такія адносіны да мовы з боку чыноўніцтва не могуць не абражаць нацыянальныя пачуцці беларуса. І, мяркую, ён, беларус, не будзе доўга цярпець, каб такія непісьменныя, неахайныя і абразлівыя надпісы мазолілі людзям вочы. А цяпер прыйдзецца зноў перарабляць дарожныя ўказальнікі, аддаваць іх на пераплаўку. Толькі вось за чый кошт? Ізноў за дзяржаўны? Ці справядліва гэта? Думаю, Таварыству беларускай мовы імя Ф. Скарыны варта б было стварыць спецыяльную камісію па праверцы надпісаў на дарожных указальніках і дабіцца, каб усе памылкі на іх былі неадкладна выпраўлены і выпраўлены абавязкова за кошт віноўнікаў. Чаму ж дзяржава павінна расплачвацца за чыёсьці нядбальства і невуцтва, за чыноўніцкую пагарду да мовы, да культуры нашага народа?

Напісаць пра ўсё гэта мяне падштурхнула з'яўленне на дарожным указальніку абноўленай, «абеларушанай» назвы маёй роднай вёскі. Замест першароднай, дадзенай некалі дзядамі, прывычнай для ўсіх прыгожай беларускай назвы Зялёная Дуброва (у Старадарожскім раёне) чыноўніцкая рука скалечыла, перакруціла яе на расійскі капыл — Зялёная Дубрава. З рускай мовы пераклалі... на яшчэ больш рускую! Дзеля чаго? Каб памаленьку, спадцішка ўсё ж такі і далей прылучаць нас да «великого и могучего языка» суседняй дзяржавы, каб мае нашчадкі зусім забывалі мову свайго народа, родныя карані? Лічу гэта абразай для ўсіх жыхароў маёй Зялёнай Дубровы.

Выказваючы ад іх імя свой пратэст супроць такіх зняважлівых адносін чыноўнікаў да спадчыны маіх продкаў (а мова, тапаніміка — гэта важны культурны набытак народа), хачу, каб Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі (здаецца, дарожныя знакі — яго кампетэнцыя) дало газеце «Наша слова» і аўтару гэтага допісу ясны і недвухсэнсоўны адказ: па чыёй віне скалечылі, русіфікавалі назву маёй вёскі і калі будзе выпраўлена гэтая абразлівая памылка?

**Кастусь ЦВІРКА,**
**пісьменнік.**

# Па жаданні бацькоў і настаўнікаў

Без якогасьці націску з боку гарадскіх улад,— падкрэсліў начальнік упраўлення народнай адукацыі Менскага гарвыканкама Генадзь Дылян у гутарцы з карэспандэнтам газеты «Добры вечар»,— сёлета ў сталіцы рэспублікі адкрыліся 44 беларускія школы. Такім было жаданне бацькоў і настаўнікаў. «Бацькі самі ўсё больш разумеюць неабходнасць навучання на дзяржаўнай мове»,— падкрэсліў Г. Дылян. Сёлета пры паступленні ў менскі Беларускі ліцэй на адно месца прэтэндавала 4 чалавекі.

# Вучымся!

## ЗАНЯТКІ IV

*Вочна-завочная школа*

### ФАНЕТЫЧНАЯ РАЗМІНКА

1. Прачытайце словы. Звярніце ўвагу на вымаўленне спалучэнняў зычных:

| | | |
|---|---|---|
| джала | падзяка | вучышся |
| сяджу | сядзіць | стараешся |
| ураджай | дзесяты | мыешся |
| адраджэнне | дзень | купаешся |

2. Прачытайце скорагаворкі, запомніце, прагаварыце хутка па тры разы.

Калы трэба перакалоць, перакалаціць.

Ткач ткаў хустку на таку і хукаў на руку.

3. Прачытайце прыказкі, захоўваючы правілы чытання. Скажыце, у чым сэнс іх павучальнага зместу?

Бессаромнага госця півам не выгнаць. Не так рады прыходу, як адыходу. Не ідзі туды, куды цябе не просяць. Дзе любяць, бывай рэдка, а дзе не любяць, ніколі. Калі да цябе не п'юць, не кажы на здароўе. Гасцяваць бы гасцяваў, ды хлеба з сабой не браў. Баль не баль, калі не частуюць. Мядзведзь карове не брат. Бывае добра, але не ўсякаму, як таму Якаву.

### ПАЎТАРЭННЕ ВЫВУЧАНАГА

1. Пералічыце назвы сваяцкіх і іншых адносін людзей.
2. Адкажыце на пытанні:
— З кім Вы сябруеце?
— Дзе жыве Ваш сябар?
— Што гэта за чалавек? Вусна апішыце.
— Якая ў яго сям'я?
— Кім ён працуе?
— Ці даўно Вы з ім бачыліся?
3. Заданні паводле тэксту «Дзяды».
Назавіце асноўныя святы, прысвечаныя ўшанаванню продкаў.
Калі святкуюцца Змітраўскія дзяды?
Як адзначаецца гэтае свята?
Чым адрозніваецца святкаванне Змітраўскіх дзядоў ад Радаўніцы?
Раскажыце, ці памінаюцца продкі ў Вашай сям'і?

### ДЛЯ ЦІКАЎНЫХ

Прачытайце тэкст.

#### *«ПЕЧ, ПЕЧ, ПАМАЖЫ!»*

Ёсць такі выраз: танцаваць ад печы. Пачнём і мы нашу размову з печы.

Печ займае ў сялянскай хаце важнае і пачэснае месца. Яе роля не толькі ў практычным прызначэнні (печ абагравае хату, у ёй вараць ежу, на ёй спяць, адпачываюць, лечацца). З печчу звязана шмат вераванняў і ўяўленняў.

Асаблівая павага да печы, адносіны да яе як да жывой істоты падкрэсліваюцца забаронай ужываць «у яе прысутнасці» грубыя або непрыстойныя словы: «Няможна гэтак казаць, бо печ у хаце», «Сказаў бы, ды печ у хаце».

Печ была своеасаблівым цэнтрам хаты, увасабленнем старажытнага агменю (ачага), без якога немагчыма ўявіць сабе чалавечае жыццё. Невыпадкова менавіта печ (а дакладней — падпечак) лічылася месцам знаходжання добрага духа — дамавіка, галоўныя «абавязкі» якога — клопат пра дабрабыт сям'і. Дамавіка атаясамлівалі з кутнім слупам печы, які называлі звычайна дзедам.

У тых выпадках, калі неабходна было здабыць «жывы агонь», яго атрымлівалі вярчэннем верацяна ў якой-небудзь шчыліне пячнога дзеда. Як бачым, печ уяўлялася сімвалам дзядоў — продкаў, якія «дораць» агонь, а з ім — жыццё. Цікава, што ў некаторых месцах Беларусі дзедам называюць прыстасаванне, у якое ўтыкаецца лучына для асвятлення хаты.

Беларусам быў вядомы такі звычай: кума, перш чым передаць маці ахрышчанае дзіця, пасля вяртання з царквы абносіла яго тройчы вакол слупа печы, «каб дзіця любіла хату і трымалася яе».

Вясной, у дзень першага выгану жывёлы ў поле, гаспадыні кармілі кароў на пячной засланцы, прыгаворваючы: «Як гэтая засланка кожную ноч стаіць на сваім месцы, так бы і наша кароўка стаяла кожную ноч на сваім двары». З гэтай жа мэтай кармілі на засланцы і купленую карову, якую прыводзілі на панадворак.

Печ успрымалі і як надзейную заступніцу ад хваробы або смерці. Існавала такая парада: пры ўваходзе ў хату, у якой ляжыць хворы, трэба спачатку паглядзець на печ, каб не прыстала хвароба. Пасля вяртання з могілак удзельнікі пахавальнай працэсіі перш за ўсё выконвалі абрад ачышчэння агнём: адчынялі ў печы засланку і па чарзе грэлі рукі, «каб смерць праз комін пайшла».

У народнай медыцыне беларусаў быў вядомы прыём сімвалічнага «запякання» слабых, хворых дзяцей у печы. Дзіця закутвалі ў коўдру і трымалі некалькі хвілін у печы адразу пасля таго, як скончаць паліць. Лічылася, што пасля такога «запякання» дзіця набывае сілу і здароўе.

Асабліва выразнай была шлюбная сімволіка, бо печ асэнсоўвалася як «жаночае» месца ў хаце. Сваты, збіраючыся ісці сватаць дзяўчыну, дакраналіся да печы ў сваім доме, «каб быў лад». Прыйшоўшы ў хату будучай нявесты, яны перш за ўсё набліжаліся да печы і ціхенька звярталіся да яе: «Печ, печ, памажы!» Пасля віталіся з гаспадарамі: садзіліся на лаву і пачыналі гаворку.

Пашана да печы як да месца знаходжання душ продкаў адлюстравана і ў беларускім звычаі, згодна з якім бацькі, пачуўшы прапанову свацці, раяцца паміж сабою, адышоўшы да печы. На Украіне ў час сватання нявеста, выказваючы сваю згоду выйсці за таго, хто да яе сватаецца, моўчкі садзілася на печ і калупала пальцам гліну.

У некаторых вёсках Гомельшчыны і цяпер існуе старадаўні звычай: маладая на другі дзень пасля вяселля беліць печ у хаце маладога. Гэтым яна імкнецца «задобрыць» печ, наладзіць адносіны з ёю, а значыць — з новай сям'ёй.

Апошнім часам мы ўсё часцей звяртаемся да сваёй духоўнай спадчыны, імкнёмся зразумець светаўспрыманне, мары і надзеі нашых продкаў. Важнай рысай, якая вызначала светапогляд людзей мінулага, было адухаўленне ўсяго таго, што знаходзілася побач з чалавекам.

Перакажыце, што Вам запомнілася.

## Новая тэма: ЗВОНКІЯ І ГЛУХІЯ ЗЫЧНЫЯ ГУКІ

**У беларускай мове ёсць звонкія і глухія зычныя.**

**Парныя:** *б — п, д — т, г — х, з — с, дз' — ц', ж — ш, дж — ч*

**Няпарныя:** звонкія: *л, м, н, р, в, ў, й*

глухія: *к, ф, ц*

Глухія перад звонкімі зычнымі вымаўляюцца звонка, а звонкія перад глухімі зычнымі і ў канцы слова — глуха.

| **Пішам:** | **Чытаем:** |
|---|---|
| *просьба* | *прозьба* |
| *барацьба* | *барадзьба* |
| *касьба* | *казьба* |
| *грыбкі* | *грыпкі* |
| *прыказка* | *прыкаска* |
| *мядзведзь* | *мядзвець* |
| *снег* | *снех* |

Каб не памыліцца пры напісанні, трэба падабраць праверачнае слова з галосным пасля зычнага (як і ў расійскай мове), напрыклад: прос*ь*ба — прасіць, грыбкі — грыбок, мядзьве*дз*ь — мядзве*дз*і.

ЗАМАЦАВАННЕ.

1. Прачытайце словы, перапішыце і надбярыце да кожнага з іх праверачныя, каб растлумачыць напісанне выдзеленых літар:

кла*д*ка — ...
кве*т*ка — ...
даро*ж*ка — ...
усме*ш*ка — ...
дзя*дз*ька — ...

хле*б* —...
ду*б* — ...
сне*г* — ...
ся*дз*ь — ...
ле*з*ь — ...

2. Спішыце сказы, устаўце патрэбныя літары.

Між узгоркаў і кургапоў сце(ж, ш)ка ву(з, с)кая бяжыць. Нахіліла веццe белая бяро(з, с)ка. Даро(ж, ш)кі ў садзе абсаджаны кве(д, т) камі. Кожная новая ка (з, с) ка для Янкі Купалы была вялікай зпахо(д, т)кай.

Прачытайце сказы, захоўваючы правілы вуснай мовы.

### ЗАЦВЯРДЗЕЛЫЯ ЗЫЧНЫЯ ГУКІ

У беларускай мове зычныя гукі [ж], [ш], [дж], [ч], [р], [ц] мяккімі, апрача [ц], не бываюць і таму называюцца зацвярдзелымі.

Пасля літар *ж, ш, дж, ч, р, ц* пішуцца галосныя *а, о, у, э, ы:* жоўты, шырокі, гляджу, чышчу, марак, цэлы, цырк, станцыя.

У беларускай мове (у адрозненне ад расійскай) ёсць мяккі гук [ц']. Параўнайце словы ў беларускай і расійскай мовах: цяпер — теперь, пацеха — потеха, цёплы — тёплый, пяць — пять, пяцёрка — пятёрка.

ЗАМАЦАВАННЕ.

1. Прачытайце словы і перапішыце іх, падкрэсліце зацвярдзелыя зычныя разам з галоснымі літарамі.

Жолуд, джала, ураджай, чыжы, шэры, грыб, арэхі, пышкі, зайчык.

2. Змяніце словы, як паказана ў першым прыкладзе. Перапішыце іх. Падкрэсліце зычныя *ж, дж, ш, ч, р, ц* разам з наступнай галоснай.

Ноч — ночы, чыж — ..., задача — ..., мыш — ..., нож — ..., груша — ...

Лагер — лагеры, палац — ..., слесар — ..., токар — ..., муляр — ...

3. Змяніце граматычную форму дзеясловаў паводле ўзору. Спішыце і падкрэсліце зацвярдзелыя зычныя.

Чытаю — чытаеш, думаю — ..., працую — ..., малюю — ..., размаўляю — ..., чакаю — ..., трымаю — ...

Ляжу — ляжы, кажу — ..., пішу — ..., сачу — ..., маўчу — ..., вучу — ..., вяжу — ...

## Развіццё гутарковай мовы

**АДЗЕННЕ І АБУТАК**

**Одежда — адзенне, адзежа**
**верхняя одежда — вопратка**
**военная одежда — вайсковая вопратка**
**штатская одежда — цывільная вопратка**
**одевать — адзяваць; апранаць (верх.)**
**одеваться — адзявацца; апранацца (верх.)**
**раздеваться — раздзявацца; распранацца (верх.)**
**пальто — паліто**
**шуба — футра**
**тулуп — кажух**
**куртка — куртка**
**свитер — світэр**
**костюм — касцюм**
**брюки — штаны, порткі**
**пиджак — пінжак**
**жилет — камізэлька**
**рубаха — кашуля, сарочка**
**галстук — гальштук**
**ремень — рэмень, рамень**
**пряжка — спражка**
**трико — трыко**
**шарф — шаль, шалік**
**платье — сукенка, плацце**
**кофта, блуза — блуза, блузка**
**юбка — спадніца**
**сарафан — сарафан**
**передник — фартух**
**бельё — бялізна**
**головной убор — галаўны ўбор**
**меховая шапка — кучомка, аблавуха**
**шляпа — капялюш**
**берет — берэт**
**кепи — кепка**
**шапка вязаная — шапка вязаная**
**платок — хустка**
**носовой платок — насоўка**
**бусы — пацеркі**
**фата — вэлюм**
**чулки — панчохі**
**носки — шкарпэткі**
**гольфы — гольфы**
**обувь — абутак**
**ботинок — чаравік**
**сапог — бот**
**туфля — туфель**
**валенки — валёнкі**
**тапочки — тапачкі**
**каблук — абцас**

**ПАРАЎНАЙЦЕ**

**Два сапога пара — Адзін другога варты; Абое рабое**
**Родился в рубашке — Нарадзіўся ў кашулі**
**На чужой роток не накинешь платок — Нікому язык не завяжаш**
**Дело в шляпе — Усё ў парадку**
**Намылить шею — Даваць наганяй**
**На воре шапка горит — На злодзеі шапка гарыць**

**ЗАДАННІ**

**1. Прачытайце словы, якія Вы ведалі да заняткаў.**
**2. Выпішыце словы, з якімі Вы сустрэліся ўпершыню, і складзіце з імі сказы.**
**3. Прачытайце і запомніце фразеалагізмы, падумайце, у якой сітуацыі іх можна выкарыстаць.**
**4. Запомніце загадкі, загадайце іх сваім знаёмым, блізкім.**

**Вярхом сядаю, на кім — не знаю, знаёмага ўбачу — адразу саскочу. (Шапка.)**

**Ішоў, ішоў — дзве дарогі знайшоў і ў абедзве пайшоў. (Штаны.)**

**Пад прыпечкам рубяжы, а хто ведае — не кажы. (Пацеркі на шыі.)**

**Зверху гола, знізу калмата, цяплом багата. (Кажух.)**

**Ты ідзі туды, а я сюды, і сыдземся на пуповай гары. (Рэмень, пояс.)**

**Сам у ботах, а хаджу на галаве. (Цвік у боце.)**

**Між пяці бочак залаты вяночак. (Пярсцёнак.)**

**Складзеш — клін, развернеш — блін. (Парасон.)**

*Падрыхтавала загадчык кабінета беларускай мовы і літаратуры Менскага гарадскога інстытута ўдасканалення настаўнікаў*

***В. К. РАМАНЦЭВІЧ***

# Шэдэўры сусветнай паэзіі па-беларуску

*Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ*

## ТЭЙМУРАЗ І

Тэймураз І (1589—1663) быў царом Кахетыі і Карглі, а таксама выдатным грузінскім паэтам-лірыкам, на творчасць якога дабратворны ўплыў мела класічная персідская паэзія. Персідскую назву — «Маджама» («зборнік») — мае і кніга, з якой узяты ўзоры любоўнай лірыкі Тэймураза І.

### СОНЦА ТАК ДАРМА ШЧЫРУЕ

Сонца так дарма шчыруе — не, з табой не параўнацца!
Хто, як ты, яшчэ зрабіў бы ўвесь сусвет сваім палацам?
У цёмным лесе чорных веяў лёгка позірку схавацца;
Позірк вылецеў стралою — раніў, мне не ўратавацца.
Залатога сонца промні — што з тваімі ў параўнанні?!
Не яно, а ты прыносіш мне нагодлівае ранне.
Веяў чорны лес вартуе воч-азёраў чараванне,
На сабе я добра зведаў коп'і тога вартавання.
Не скажу, хто вінаваты — стрэлы мне прабілі грудзі.
Хто яшчэ, як не паэты, апяваць свяцілы будзе?
Нешта ж юныя не могуць расказаць аб дзіўным цудзе,
Прагну збегчы я ў пустыню, каб не чулі стогнаў людзі.
Мудрацы ажно знямелі: у красы так многа сілы,
Ад цябе святло займелі ўсе нябесныя свяцілы,
Ад цябе гажэе ружы й без таго пялёстак мілы.
Лью я слёзы, іх, напэўна, свету б цэламу хапіла.

### ДЫЯЛОГ

Раз віно шапнула вуснам: «Словамі скажу табе, і...
Ты падобна да рубіну, усхвалю цяпер цябе, і...
ХарАство прызнаўшы шчыра, табе выпіць дам сябе, і...
Я запоўню весялосцю сэрца тое, што ў журбе, і...»
І віну сказалі вусны: «Хваліішся ты весялосцю,
Я ж і розуму пазбаўлю заказанага кагосьці,
Упрыгожваю я сэрцы, несучы агонь мілосці,
Ну, а яханты, рубіны для мяне — пустое штосьці».
Зноў віно гаворыць вуснам: «Можаш ты прынесці слёзы,
Бо ў каханні ёсць нярэдка і тугі і скрухі дозы.
Я ж прымушу чалавека піць, не быць скупым, цвярозым,
Ён са мною неразлучны, аж пакуль не страціць розум».
І віну сказалі вусны: «Ап'яняеш чалавека,
Пець яго ты прымушаеш... Пацяшаешся са здзеку.
За мяне ж ідуць на згубу — у агонь, у горы, ў рэкі.
Там, дзе я, табе не месца, так было яно спрадвеку».
І віно сказала: «Праўда,— пацяшаюся я светам,
Ды мяне, павер, наўрад ці вінаваціць можна ў гэтым,
Як зайграю я пунцова — і (не будзе тут сакрэтам)
Прагнуць вочы, прагнуць сэрцы падысці бліжэй да мэты».
Вусны кажуць: «Праўды ў гэтым, разумею, ёсць нямала,
Толькі ты ці не са мною сябе дзёрзка параўнала?!
Уласцівасцей маіх ты проста, думаю, не знала,
Дый сама я не адразу іх адкрыла, іх спазнала.
У белым келіху іграе колер твой чырвоны гожа.
Толькі ён з маёй усмешкай параўнацца хіба можа?!
Вакол жэмчугу рубіны — чым мяне ты ўзброіў, божа! —
Як раскрыюцца гулліва — ўсё усмешка пераможа».

**Пераклад з грузінскай Васіля ЖУКОВІЧА.**

*Алег БЕМБЕЛЬ*

## З «падпольнай» кнігі

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—41).*

Алесь Адамович многие свои вещи написал по-русски — и тем самым значительно увеличил число людей среди других народов, да и здесь в Белоруссии, знающих что-то о жизни, о характере белорусов...

Исторический центр беларускай мовы всё-таки Минск Полоцк, а не Турово-Пинское княжество... Гомельщина, может, она претендует на чысціню?.. Но если проехать её с севера на юг, можно проследить, как произношение эволюционирует от центрально-белорусского к украинскому... Диалектные оттенки нельзя выдавать за «чысціню мовы»...

Барадулин... Общение с читателем затруднено... У Купалы — нет...

...Если у народа, в силу каких-то причин, средством общения становится другой язык, перестаёт ли культура его быть национальной?.. Нет...

Язык, видимо, не может быть основным показателем национальной культуры — как ни кощунственна эта мысль... Это — целая совокупность каких-то показателей, куда входит и язык...

Русских языков много: древнерусский язык, язык Ломоносова, Державина, Пушкинской эпохи... Блока... язык Маяковского...

Я не думаю, что будет прогрессивным для белорусского языка явлением, если все научные журналы в Белоруссии начнут издавать на белорусском языке. Это затормозит общение. Будет ли это полезно, скажем, для белорусской химии?..

Я отвлекаюсь от тех эмоций, которыми насыщены эти высказывания поэтов...

...Если бы провести анкетирование и установить, какое количество интеллигенции республики — в силу того, что не ведае мовы,— оторвано от тех процессов, которые происходят в художественной жизни республики,—видимо, обнаружились бы многие весьма странные вещи... «ЛіМ», «Полымя» и другие,— кощунственно, конечно,— но если бы они выходили на русском языке, они были бы гораздо глубже связаны с белорусской культурой...

Что же делать с теми — с огромной частью интеллигенции Белоруссии — хто не ведае беларускай мовы?.. Изгонять в другие республики?.. Презирать их?.. Или издавать соответствующие материалы на русском языке?.. Видимо, литературный журнал должен быть на белорусском языке, а по остальным видам искусства — на русском. Если материалы по белорусской архитектуре будут издаваться на белорусском языке, они не достигнут своей цели. Главная цель языка — быть средством общения...

Я очень люблю белорусский язык, и мне было бы обидно, если бы этот мілагучны, добры язык был тормозом в общении между архитекторами...

Это — язык высокого литературного стиля. Мне очень приятно видеть, как люди других народов пытаются приобщиться к Быкову в оригинале... Однажды в поезде мне было очень приятно увидеть у болгарки стихи Богдановича, которые она везла домой...

...Когда важные для белорусского народа идеи внедряют с помощью белорусского языка в другие искусства — это работа несовершённая, ибо очень малый круг людей владеет этим языком. Вот пример — моя книжка. Многие люди хотели бы, но не могут прочитать её...

(—Захотели бы — прочитали...)

*(Працяг будзе).*

*Спытайце ў кнігарні*

## «Складзі ўзор сам»

Нядаўна ўбачыла свет незвычайная кніжка — «Складзі ўзор сам» (падзагаловак «Народны арнамент у побыце»). Яе аўтар — Марыя Пятроўна Жабінская, член Саюза мастакоў рэспублікі. «З'яўленне кніжкі — не выпадковасць, бо апошнім часам узнялася новая хваля цікавасці да аўтэнтычных відаў народнай творчасці. Гэта перш за ўсё звязана з узмацненнем працэсаў адраджэння нацыянальнай культуры, з абуджэннем самасвядомасці беларусаў, а таксама і з вечным імкненнем чалавека да прыгажосці. У нашы дні ўсё больш людзей імкнуцца дакрануцца да таямніц народных рамёстваў, спрабуюць нешта зрабіць сваімі рукамі. І новая кніжка М. П. Жабінскай вельмі дапаможа ў гэтым. Галоўная мэта аўтара — пазнаёміць чытача з беларускім арнаментам, які аздабляў тканыя рэчы, і дапамагчы навучыцца складаць узор у традыцыях народнага мастацтва.

Кніжка складаецца з трох раздзелаў. Першы «З глыбіні стагоддзяў» знаёміць з гісторыяй беларускага ткацтва. Дагэтуль, адзначым, было толькі адно больш-менш поўнае навуковае выданне, прысвечанае беларускаму ткацтву (Курилович А. Н. Белорусское народное ткачество. Мн., 1981). А між тым ткацтва на Беларусі — найбольш старажытная, найбольш распаўсюджаная галіна народнай творчасці. Археалагічныя знаходкі сведчаць, што на сучаснай тэрыторыі рэспублікі тканіны выраблялiся яшчэ ў эпоху неаліта. У параўнанні з ткацтвам іншых славянскіх народаў беларускае ткацтва мае самую разнастайную, багатую і прыгожую арнаментыку. М. П. Жабінская засяроджвае ўвагу чытачоў на асаблівасцях традыцый і тэхналогій ткацтва на розных тэрыторыях старажытнай і сучаснай Беларусі. Другі раздзел кніжкі «У свеце гармоніі» прысвечаны асаблівасцям традыцыйных беларускіх арнаментаў: геаметрычнага і расліннага. Апошні раздзел «Аснова прыгажосці», відаць, самы карысны і каштоўны, бо ён паступова вучыць самастойнаму складанню ўзораў. Чытачы знойдуць тут не толькі практычныя парады, рэкамендацыі па складанні арнаментаў у традыцыйным стылі, але і пазнаёмяцца з паняццямі прапарцыянальнасці, трохкампанентнасці, рытму, сіметрыі, статыкі, пластыкі, колеру, аб якіх трэба мець уяўленне любому чалавеку, хто збіраецца займацца ткацтвам, вышыўкай або якім-небудзь іншым мастацкім рамяством.

Кніжка вучыць не толькі капіраваць тыя ўзоры, што ўжо існуюць, але і ўважліва ўзірацца ў навакольны свет, які менавіта і дорыць чалавеку новыя вобразы, ідэі для творчасці. Аўтар заклікае таксама ўзнаўляць формы прыроды ў мастацкім творы, бо адметнай асаблівасцю дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва з'яўляецца ўмоўнасць і максімальная стылізацыя выяў навакольнага свету.

Выданне добра ілюстравана, амаль усе практычныя парады і заданні маюць сваё даходлівае графічнае ўвасабленне. Кніга выпушчана на дзвюх мовах — беларускай і рускай, што, несумненна, пашырыць чытацкае кола.

Новы дапаможнік спатрэбіцца мастакам рознага ўзроўню майстэрства: і прафесіяналам у стварэнні варыянтаў беларускага арнаменту, і тым, хто толькі пачынае знаёміцца з цудоўным светам нашых народных рамёстваў.

**Наталля ДРОЗД.**

*Чыталі?*

## «Пад сінім небам»

У наступным годзе 20 верасня споўніцца 90 гадоў з дня нараджэння адной з самых таленавітых паэтак беларускага замежжа Наталлі Арсенневай. Але ўжо у гэтым годзе да гэтай даты выдавецтва «Мастацкая літаратура» накладам у 2 тысячы паасобнікаў выпусціла факсімільнае выданне зборніка вершаў Наталлі Арсенневай «Пад сінім небам». Выданне падрыхтавана па экземпляры, які захоўваецца ў пісьменніка Барыса Сачанкі.

Упершыню зборнік «Пад сінім небам» быў выпушчаны ў 1927 годзе «Віленскім выдавецтвам» Б. Клецкіна.

«...У беларусаў пад Польшчаю з'явілася шмат маладых паэтаў, пісьменнікаў і публіцыстаў, але з выдатных іменняў можна тым часам назваць хіба толькі адно — гэта імя Наталлі Аляксееўны Арсенневай — расіянкі па нацыянальнасці, а беларускі толькі па жыхарству і культуры.

...Форма вершаў Арсенневай у галіне тэхнікі вершаскладання не вызначаецца нейкай асаблівай бліскучасцю, але яны захопліваюць шчырасцю пачуцця, далікатнасцю тону і нейкаю асабліваю пяшчотнасцю вобразаў і слоў...» — так пра Наталлю Арсенневу пісаў у 1928 годзе Максім Гарэцкі. І тое, што сапраўды паэзія Наталлі Арсенневай высокай пробы, можна пераканацца, прачытаўшы факсімільнае выданне зборніка паэткі «Пад сінім небам».

**В. Ш.**

**WIS**

У 1650 годзе ў сталіцы Нідэрландаў Амстэрдаме ўпершыню выйшла кніга «Вялікае мастацтва артылерыі», якую напісаў наш зямляк, генерал-лейтэнант каронцай артылерыі Казімір Семяновіч. Гэтая кніга на працягу паўтара стагоддзяў была ў Еўропе самай грунтоўнай і аўтарытэтнай навуковай працай па артылерыі і піратэхніцы.

Зусім нядаўна ў выдавецтве «Навука і тэхніка» ў акадэмічнай серыі «Нашы славутыя землякі» накладам 15 тысяч паасобнікаў выйшла кніга Алеся Бельскага і Міхася Ткачова «Вялікае мастацтва артылерыі: Казімір Семяновіч». Аўтары кнігі ў папулярнай форме расказваюць пра беларускага вучонага XVII стагоддзя, які вынайшаў шматступеньчатую ракету. Кніга можа быць выкарыстана настаўнікамі ў пазакласнай рабоце, выкладчыкамі вышэйшых навучальных устаноў і ўсімі, хто змагаецца за Адраджэнне.

*Горас МАККОЙ*

# БЫВАЙ, ЖЫЦЦЁ, БЫВАЙ, КАХАННЕ!

*(Працяг. Пачатак у №№ 32—41).*

— Вы ў пралёце, Чарлі,— сказаў ён.— Дыск, які вы так бязлітасна сагнулі — усяго толькі адна з копій, што маюцца ў нашых надзейных сяброў. І калі мы праз гадзіну не паведамім ім, што ў нас усё ў парадку, яны, згодна з нашай просьбаю, дадуць праслухаць гэты запіс людзям з некаторых колаў горада, да якіх вы, магчыма, не зможаце дабрацца, і ў якія, вы ведаеце, я маю доступ...

У інспектара ажно сківіца адвісла.

— Бачыце, Чарлі,— прадоўжыў Мандан,— ламаннем тут ніяк не дапаможаш. Усё было выдатна паміж намі, і гэтак і будзе, калі вы будзеце разважлівым. Мы просім вас толькі аб адным: трохі супрацоўніцтва...

— Мы яшчэ крышачку просім,— загаварыў я: — тысяча чатырыста і тысяча восемсот — гэта ў суме тры тысячы дзвесце. Вы вінныя мне тры тысячы дзвесце долараў. І вы мне іх вернеце.

— О божа! — сказаў Мандан.— З гэтым не маглі хоць крышку пачакаць?

— Гэта мае бабкі,— цвёрда сказаў я.— Я хачу, каб...

Мандан падскочыў да мяне і схапіў мяне за плечы.

— Ды пачакайце вы! — узвыў ён.— Крыху пазней!

Інспектар глядзеў на сваю руку, з якой капала на дыван кроў.

Цяпер ён ужо не крычаў. І нянавісці ў ягоных вачах не было. Калос, не праўда? А што застаецца ад калоса, калі яго трасянуць як след?

ЧАСТКА ДРУГАЯ

I

Я сядзеў у машыне той самай белатварай чорнавалосай дзяўчыны, перад домам доктара Грына, пад раскідзістым дрэвам. Лекцыя закончылася хвілін дзесяць назад, і вучні дока Грына ўжо адправіліся дамоў — хто пешшу, хто на машыне. Нарэшце, святло ў доме згасла, і праз невялічкі час я ўбачыў, што яна выходзіць з дома, і згадаў прычыну, праз якую сюды прыйшоў: *пах парфумы, мне трэба зразумець, адкуль ён з'явіўся ў маёй памяці...* Яна ішла да мяне па сцяжынцы цераз сад. Я выйшаў з машыны, стаў ля адчыненых дзверцаў і неўзабаве змог разгледзець яе твар — і тут я зноў адчуў пах парфумы «Нуэль дэ Ночэ», пах, які існаваў толькі ў маёй фантазіі, які быў усяго толькі галюцынацыяй — *але ва мне зноў абудзіўся той самы страх... І адразу ж з'явілася згадка...*

— Можна, я адвязу вас куды-небудзь? — пачуў я свой голас.

— Я не ведала, што вы тут, — сказала яна, усміхнулася і кіўком галавы паказала на машыну. — Вам хочацца весці?

— Вядзіце вы, — сказаў я.

Я адступіў, і яна села за руль, а я — каля яе.

— Куды вас адвезці сёння? — спыталася яна.

— Куды хочаце. Сёння я вольны.

Яна зноў усміхнулася і рушыла з месца.

— А вы ўпэўнены, што сёння ў вас няма ніякіх спраў? — спытаўся я.

— Абсалютна.

— А якой гадзіне вам трэба вярнуцца?

— Я ўжо даўно самастойная ў гэтым. Я дарослы чалавек, і ў мяне ёсць свая кватэра, у якой я магу рабіць усё што хачу... Дык куды мы паедзем?

— Я не ведаю раёна. Рашайце самі.

Мы даехалі да шырокага бульвара. Рух тут быў вельмі інтэнсіўны. З двух бакоў шашы месціліся склады і бензазапраўкі, але кіламетры праз два агні сталі радзейшыя і, нарэшце, зніклі зусім...

— Вы жывяце тут? — спыталася яна.

— Тут.

— Дзе?

— У ніжняй частцы горада.

— У атэлі?

— Не, у мяне ёсць кватэра.

— А чым вы займаецеся?

— Прызнаюся, цяпер нічым. Я запусціў у ход некалькі спраў...

— Чаму вы заўсёды такі няўпэўнены? — паглядзела яна раптам на мяне.

— О, заўсёды адна і тая ж гісторыя... Комплексы...— адказаў я, гледзячы ёй у твар і бачачы зноў, у той самы момант, *маленькую старую жанчыну ў труне.* — Некаторыя комплексы,— дадаў я...

Яна ўздрыгнула і адвярнулася. Адвярнуўся і я.

Неўзабаве я пачуў нейкі рэзкі гук — і, апусціўшы вочы, убачыў, што яна з усяе сілы націснула на акселератар. Злавала. Відаць, хацела паказытаць мне нервы.

«Выдатна, крошка, — падумаў я, — давай наганяй на мяне страх. Са мною гэта не пройдзе».

Я ямчэй уладкаваўся на сядзенні і, перастаўшы глядзець на шашу, апусціў галаву і ўтупіўся вачыма ўніз. Каб не адчуць страху ў такой сітуацыі, трэба старацца не глядзець на дарогу — тады не ўбачыш, як усё, што ёсць наўкол, праносіцца міма, і не адчуеш хуткасці. А яшчэ нельга глядзець на лічыльнік. Тады ты будзеш валодаць сваімі нервамі.

Але раптам я страціў раўнавагу і прываліўся да дзверцаў. Інстынктыўна ўскінуў вочы. Машына імчалася так, што ажно дух займала.

«Божа, — падумаў я, — ды яна чокнутая».

Яна набрала хуткасць не меншую за сто семдзесят кіламетраў у гадзіну. Тут магло здарыцца ўсё што хочаш.

Я дастаў з кішэні цыгарэту. Яна адразу ж зняла з руля правую руку, каб падаць мне запальнічку. Я аж уздрыгнуў.

«А ты малаток, — падумаў я. — Ты і праўда ўжо даўно не дзяўчынка. У цябе ёсць будучыня. Але што застанецца ад гэтай будучыні, калі ты вылеціш аднойчы ў кювет?»

Я паглядзеў на лічыльнік. Стрэлка паказвала прыблізна сто семдзесят. Я выкінуў цыгарэту праз дзверцы.

— Гэта вельмі хутка! — крыкнуў я.

— Лічыльнік маніць! — крыкнула ў адказ яна.

— Пляваў я на лічыльнік! Гэта вельмі хутка. Гэта занадта хутка!

Яна паклала правую руку на руль і аслабіла крыху нагу на акселератары. Хуткасць пачала патроху змяншацца: стрэлка лічыльніка апусцілася да ста дваццаці, ста дзесяці, ста, васьмідзесяці, сямідзесяці пяці... Твар ужо не абдавала рэзкім ветрам...

— Вы хоць ведаеце, з якой хуткасцю вы ехалі? Сто семдзесят...

— Лічыльнік маніць.

— Няважна, маніць ён ці не, але гэтая машына залішне магутная для вас.

Яна зняла нагу з акселератара і прыпынілася з краю дарогі.

— Чаму вы спыніліся? — спытаўся я.

— А зараз сядайце за руль вы, — сказала яна.

— Што вы хочаце даказаць? — паглядзеў я на яе.

— Даказаць? — здзівілася яна. — Я нічога не хачу даказаць. Я толькі хачу, каб вы павялі замест мяне машыну.

— Добра.

Я выйшаў, і мы памяняліся месцамі.

— Цяпер вам лепей? — спыталася яна.

— Нашмат.

Я націснуў на педаль.

— Можна цыгарэту?

Я працягнуў ёй цыгарэту. Яна запаліла яе ад запальнічкі. Я адчуў, што яна глядзіць на мяне.

— А мне вашая манера весці машыну падабаецца больш за маю, — сказала яна.

— Мне таксама.

— А ўвогуле я нервуюся, калі машыну вядзе хто іншы. Але цяпер зусім не.

— І я не.

Раптам яна паклала руку мне на калена і здзіўлена паглядзела на мяне.

— Цяпер я разумею, — сказала яна. — Вы думаеце... — Яна засмяялася. — Не, гэта немагчыма. Няўжо вы і праўда думаеце, што я хацела вас напалохаць?

Я збочыў на папярочную дарогу, вузкую, але асфальтаваную, якая вяла на поўнач. Яна і слова не сказала. Праз дзве-тры хвіліны я спыніў машыну пад дубам і выключыў фары. Матор заціх, і вакол нас раптам запала поўная цішыня. Я глядзеў на яе. Яна па-ранейшаму курыла цыгарэту і кудлаціла сабе валасы.

— Навошта вы гэта зрабілі? — запытаўся я.

— Што?

— Вы цудоўна ведаеце.

— Паехала з такой хуткасцю?

— Але.

— А на гэта, як для вас, дык патрэбная асобая падстава?

— Для мяне патрэбная.

— Не. Ніякай падставы не было. Мне часта хочацца ўцячы.

— Лухта, — сказаў я. — Чаму вам страшна?

— Страшна — мне?.. — Яна замялася.

Я ўзяў у яе з рота цыгарэту і выкінуў.

— Дык вам страшна? — спытаўся я, узіраючыся ў яе.

— Не глядзіце на мяне так, — прашаптала яна.

Я абняў яе і пацалаваў у растуленыя вусны. Яна ўздрыгнула, нешта прамармытала і хацела была адвярнуцца, але я зноў злізўся з ёю вуснамі. Мне здавалася, я патанаў у акіяне *«Нуэль дэ Ночэ». І зноў пачуццё страху...* Яна перастала супраціўляцца, і я выпусціў яе з абдымкаў.

— Выходзьце, — сказаў я ёй.

Яна моўчкі павярнула да мяне свой белы твар. Я нахіліўся, адчыніў дзверцы з яе боку і, прыцiснуўшыся, выйшаў.

— Выходзьце, — сказаў я ёй, падаючы руку.

Зачыніўшы дзверцы, я падвёў яе бліжэй да дуба, сеў на траву і прыцягнуў яе да сябе. Здавалася, яна нічога не адчувала — ні жадання, ні цікаўнасці, ні страху.

— Ляжце на спіну, — сказаў я ёй.

Яна легла, паклаўшы рукі на грудзі. Я развёў іх і паклаў уздоўж цела.

— Закрыйце вочы, — сказаў я.

Яна заплюшчыла.

— А зараз не рухайцеся. Заставайцеся спакойнай. Не дыхайце.

Яна стрымала дыханне, грудзі ў яе перасталі ўздымацца і апускацца. Я павярнуў яе галаву так, каб лепш бачыць у цемры белы твар і чорныя валасы, паклаў так, каб твар здаваўся як мага бялейшым, а валасы — чарнейшымі. Я глядзеў на яе і аддаваўся цалкам згадцы... Божа, дык вось што ўвесь час хвалявала мяне! *Але ж гэта немагчыма! Мне было тады толькі чатыры гады!..*

Непадалёк засвяціла святло. Спалоханая, яна прыўзняла галаву, я павярнуўся і ўбачыў, што да нас пад'ехалі два матацыклы.

Несумненна, гэта быў паліцэйскі патруль. Я лёг на жывот і прыцягнуў яе да сябе. Выжлы сышлі з матацыклаў. Я намацаў у кішэні рэвальвер.

— Гэта яе машына, — сказаў адзін паліцэйскі. — Чатыры апошнія лічбы нумара супадаюць.

— Радыятар яшчэ гарачы, — заўважыў другі.

— І шыны таксама. Машына спынілася тут нядаўна.

Я пачуў, што яны адчыняюць дзверцы. Затым адзін з іх прысвіснуў.

— Нік, — сказаў ён другому, — глядзі.

Другі таксама прысвіснуў.

Яна нешта буркнула і, перш чым я мог паспець стрымаць яе, з крыкам кінулася да машыны.

— Не чапайце маю машыну!

«Чорт», — падумаў я.

Дастаўшы рэвальвер, я запоўз за дуб.

— Што вы нахабнічаеце?! — крыкнула яна. — І перастаньце свяціць мне ў твар!

— Вашае імя Маргарэт Добсан? — запытаўся Нік.

— Пакажыце нам вашыя правы, — сказаў другі, апускаючы ліхтар.

— Я вам нічога не пакажу, — абсекла яна. — Сядайце на вашыя матацыклы і язджайце...

— Паслухайце, — сказаў Нік, — мы не хацелі б быць змушанымі забраць вас...

— Які ў вас нумар? — холадна спыталася яна.

— Прашу вас, панна, адкажыце нам, — пачаў паліцэйскі, аднак пасвяціў ліхтаром на нумар. — Чытайце самі...

Яна нахілілася і гучна прачытала:

— Тысяча восемсот дваццаць два...

— Я задаў вам пытанне, панна, — сказаў Нік. — Вашае імя Маргарэт Добсан?

— Гэта вашая машына? — спытаўся другі.

— Вядома, мая. А вы б хацелі, каб чыя яна была?

— Слухайце, панна Добсан, — распачаў Нік. — Мы зусім не збіраемся забіраць вас. Мы хочам толькі праверыць. Чалавек дзесяць сказалі нам на дарозе, што вы ехалі з хуткасцю сто пяцьдзесят ці сто шэсцьдзесят кіламетраў. На такой хуткасці вы маглі б лёгка разбіцца. І мы не хочам, каб дачка Эзры Добсана разбілася ў нашым сектары. Ці ж не так, Дайман?

Я вушам сваім не верыў. Выжлы прасілі ў яе прабачэння. Яны баяліся бацькі гэтай мышкі!

— І яшчэ, панна Добсан, — прадоўжыў Нік. — Не трэба вам быць тут у такую пару...

— Мне вельмі добра тут, — сказала яна. — А зараз вы, я спадзяюся, паедзеце?

— Паедзем, панна Добсан, — сказаў Дайман. — Але што да нумара майго калегі, дык забудзьце яго, добра, панна Добсан?

Яна не адказала. Ліхтары згаслі. Паліцэйскія селі на матацыклы і паехалі. Я паклаў рэвальвер у кішэню і выйшаў насустрач ёй з-за дуба.

— Наступным разам, — сказаў я, — як буду прагульвацца з вамі, дык вазьму з сабой запасныя нервы.

— Я такая засмучаная...

— Чаму? Усё было проста цудоўна. Так і трэба з гэтымі неданоскамі. Дарэчы, хто вы?

— Не пытайцеся ў мяне пра гэта.

— Я ад нараджэння цікаўны, — сказаў я. — Хто ён, ваш бацька? Прэфект паліцыі ці штонебудзь такое?

— Не, — ухілілася яна ад адказу.

Яна адвярнулася і пайшла да таго самага месца, дзе мы ляжалі. А там зноў легла на траву. Я падышоў да яе і сеў побач.

— Хто вы? — зноў спытаўся я.

— Перастаньце думаць пра гэта. Падумайце лепш аб тым, аб чым думалі нядаўна. Глядзіце...

Яна выцягнула рукі ўздоўж цела і заплюшчыла вочы. Яна, здавалася, не дыхала, *нерухомая, як статуя, як...*

*(Працяг будзе).*

